БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Belarusian Collegium

# HOMO HISTORICUS 2016

## The Annual of Anthropological History

Edited by Aliaksandr Smalianchuk,
Doctor in History

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# «ЧАМУ Я ТАКІМ СТАЎ...»
# З вусных успамінаў Сяргея Пятровіча Яноўскага (1925–2010)

## *Summary*

The publication presents the memoirs of Siarhiej Piatrovič Janoŭski, recorded in 2009. They reflect the main events of Belarusian history of the twentieth century: everyday life in Western Belarus in the interwar period, teaching and education there, World War II, anti-Soviet resistance, the post-war repressions, the history of the Greek-Catholic Church etc. Siarhiej Piatrovič's memoirs is his attempt to associate himself with the past, in the context of national life, and to answer the question why and what happened with him. The memories are thoughtful summing of his life, which can be useful for descendants.

The specific method of publication allowed to present the sequence of the story, the author's structure of the narrative and his vocabulary without changing. Yet it presents the oral memories in most readable form.

Аўтабіяграфія Сяргея Пятровіча Яноўскага – гэта адлюстраванне асноўных падзей гісторыі Беларусі XX ст., а аповед пра іх – спроба злучыць сябе з мінулым, упісацца ў кантэкст агульнага жыцця краіны, знайсці адказ на пытанне, чаму тое, што здарылася, здарылася менавіта з ім. Яго ўспаміны з'яўляюцца прадуманым падвядзеннем вынікаў жыцця, якое мусіць быць карысным для нашчадкаў.

Сяргей Яноўскі нарадзіўся 19 жніўня 1925 г. у в. Залессе, якая знаходзіцца паблізу мястэчка Ілля на Вілейшчыне. Яго

дзед Фёдар Шэрамет і бацькі былі настаўнікамі. Бацька арганізаваў беларускую школу ў Залессі, меў кантакты з дзеячамі беларускага руху: Браніславам Тарашкевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім ды інш. У 1939 г. Сяргей Яноўскі скончыў польскую школу, спрабаваў паступіць у Віленскую электрамеханічную гімназію, але не прайшоў па конкурсе. У 1941–1942 гг. вучыўся на настаўніцкіх курсах для моладзі. Некаторы час працаваў настаўнікам, а потым дырэктарам школы ў в. Раёўка. Падчас адпачынку ў бацькоў у Іллі быў мабілізаваны ў партызанскі атрад “За Советскую Белоруссию” брыгады А. М. Смоліна. У гэты ж час быў прыняты ў камсамол. У чэрвені 1944 г. падчас ліквідацыі партызанскіх атрадаў трапіў у палон. Дахаты вярнуўся летам 1944 г. і быў накіраваны на настаўніцкую працу ў пачатковую школу в. Сачыўкі (Вілейскі раён, Менская вобл.). У гэтым жа годзе паступіў завочна ў Менскае педвучылішча адразу на другі курс, а потым – у Менскі пэдінстытут на матэматычны факультэт.

У 1946 г. ён далучыўся да антысавецкай падпольнай арганізацыі “Чайка”, якую ўзначальваў Васіль Супрун. У наступным годзе быў арыштаваны і асуджаны па арт. 63-1 і 76 Крымінальнага кодэкса БССР на 10 гадоў лагера. Быў этапаваны ў Інту (Рэспубліка Комі), пасля працаваў у Котласе і Сольвычагодску (Архангельская вобл.), на Брацкай ГЭС, у Тайшэце (Іркуцкая вобл.). У 1955 г. быў вызвалены, працягваў жыць у Тайшэцкім раёне, дзе пазнаёміўся са сваёй жонкай. У 1957 г. вярнуўся ў Беларусь. Працаваў будаўніком, загадчыкам гаспадаркі піянерскага лагера, інспектарам Міністэрства фінансаў. У 1991 г. падаваў дакументы на рэабілітацыю, але прысуд 1947 г. быў пацверджаны. Вернік грэка-каталіцкай царквы. Павянчаўся ў дзень свайго залатога вяселля. Памёр 16 снежня 2010 г.

Сяргей Пятровіч быў вельмі папулярным апавядальнікам. У Беларускім архіве вуснай гісторыі (www.nashapamiac.org) захоўваюцца ягоныя 4 інтэрв’ю агульнай працягласцю ў 12 гадзін! Таксама захаваліся фотаздымкі і фотакопіі дакументаў, якія добра ілюструюць аповед. Ва ўсіх інтэрв’ю ўдзельнічала жонка рэспандэнта Марыя Сяргееўна Яноўская.

Першыя тры інтэрв’ю былі запісаныя ў кастрычніку-лістападзе 2007 г. у рамках праекта “Пакаянне” Валерыяй Чарнаморцавай. У другім удзельнічаў пастар Эрнэст Сабіла, у трэцім – прыхаджане грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Гэтыя размовы былі напоўненыя разважаннямі пра лёс былых рэпрэсаваных, лёс грэка-каталіцкай царквы і ўсёй краіны. Размовы абцяжарваліся тым, што Сяргей Пятровіч Яноўскі меў кепскі слых, не заўсёды чуў суразмоўцу.

Нягледзячы на тое, што кожнае інтэрв'ю мела ўласную тэму і дастаткова вялікую "размоўную" частку, у кожным з іх утрымліваліся закончаныя нарацыі рэспандэнта, якія паўтараліся ў рознай паслядоўнасці. Пытанні інтэрв'юераў С. Яноўскі выкарыстоўваў дзеля агучвання ўжо зафіксаванага сюжэта ягонай аўтабіяграфіі.

Карціна жыцця напаўнялася меркаваннямі і разважаннямі. Слухачу прэзентавалася пэўная ідэальная паслядоўнасць падзеяў з вышыні перажытага і асэнсаванага досведу. Відавочна, што сканструяваная наратарам логіка аўтабіяграфіі мела істотныя лакуны. У размове з Эрнэстам Сабілам і Валерыяй Чарнаморцавай добра прасочвалася боязь сказаць пад запіс "што-небудзь не тое", што магло нашкодзіць рэспандэнту ці ягоным блізкім.

Прадстаўлены аўтабіяграфічны наратыў прайшоў праз сур'ёзную ўнутраную цэнзуру. Гэтым тлумачыцца і той факт, што ўсе інтэрв'ю ўтрымліваюць адны і тыя ж сюжэты ў рознай паслядоўнасці. Адрозніваюцца яны толькі нязначнымі фактычнымі дэталямі, якія не ўплываюць на высновы і логіку аповеду.

Усё гэта датычыць таксама чацвёртага інтэрв'ю, запісанага Ірынай Кашталян 23 сакавіка 2009 г., працягласцю каля пяці з паловай гадзін. Яно запісвалася ў межах даследавання па гісторыі пасляваеннай штодзённасці беларускага грамадства. Гэтае інтэрв'ю мае працяглы г. зв. "нязмушаны аповед", у якім рэспандэнт паслядоўна і падрабязна распавядаў пра падзеі асабістага жыцця. У другой частцы інтэрв'ю С. Яноўскі адказаў на пытанні, датычныя гісторыі штодзённасці.

Апошняе інтэрв'ю мае менш "размоўных" частак, менш удзельнікаў, якія мяняюць кірунак размовы і выказваюць свае думкі. Таксама яно з'яўляецца найбольш поўным і паслядоўным. Менавіта таму яно і было абранае для публікацыі[1].

Прадстаўленая публікацыя заснаваная на транскрыпцыі, зробленай Русланам Рэвякам і праверанай Таццянай Касатай у 2012 г. Асноўная яе задача – перадача вуснага аўтабіяграфічнага наратыву ў максімальна зразумелай форме. Якраз таму былі выдаленыя размоўныя, удакладняючыя і дыялагічныя часткі, аповед Марыі Пятроўны Яноўскай, а таксама пытанні і адказы па гісторыі штодзённасці ды іншых тэмах, калі яны вымушалі рэспандэнта адыходзіць ад галоўнай сюжэтнай лініі. Быў скарочаны вельмі падрабязны аповед пра палон і ўцёкі.

Усе пропускі ў інтэрв'ю пазначаліся шматкроп'ем у квадратных дужках – [...]. Калі мелі месца вялікія сэнсавыя скарачэнні, курсівам дадавалася кароткая характарыстыка выдаленага тэксту. Квадратнымі дужкамі пазначаліся таксама

прапушчаныя рэспандэнтам словы. Размоўныя формулы, паўторы, фрагменты сказаў, незакончаныя і незразумелыя думкі прыбіраліся без пазначэнняў. Гэтаксама выпраўляліся няўзгодненыя канчаткі. Паслядоўнасць аповеду не змянялася. Пры публікацыі захаваная мова рэспандэнта. Літаратурная апрацоўка не рабілася. Заўвагі і каментары ўнізе старонкі, а таксама вылучэнне асобных частак успамінаў і іх загалоўкі належаць аўтару гэтых радкоў.

*Вольга Іванова (Менск)*

## *Пра бацькоў, дзядоў, прадзеда*

*[уступная размова пра мову, змест інтэрв'ю ды інш.]*

Каждае пакаленне ў сваю эпоху павінна штосьці зрабіць. Ну і мы, наша пакаленне – эта пакаленне даваеннае і ваенных часоў, – таксама штосьці выразілі. Выказалі думку, якая была ў народа. [ … ] Сучаснае пакаленне таксама неспакойна, асобенна моладзь. Вот мы былі маладыя, нам тожа хацелася штосьці зрабіць і аставіць после себе памяць. Мы зрабілі. Як нам гэта ўдалося, гэта ўжо другая справа. [ … ] Чаму я із многіх такім стаў? Чаму мяне лёс сустрэў у такім стане і заставіў па гэтай дарозе пайсці?

Мой прадзед быў удзельнікам паўстання 1863-га года і загінуў у гэтым паўстанні. Гэта там, на маёй радзіме. А я радзіўся каля Іллі, Вілейскі р-н. Каля этай Ільі пахаранілі паўстанцаў. У [вёсцы] Владыкі.

[*пра кніжку пра Філістовіча, удакладненне даты нараджэння ды інш.*]

Дык вот яно адкуль усё пачалася? Аб гэтым памятніку і маім прапрадзедзе я не знал. Тока перад смерцю мой бацька адкрыў нам эту тайну. Калі прадзед згінуў, у той час Мураўёў быў. Жосткі рэжым. Усіх уніятаў перавялі ў праваслаўе. Гэтаксама і нашую сям'ю перавялі. Ад нас, дзяцей, скрывалі эта. А мы калі ў Іллю, у школу, хадзілі, мы часта хадзілі к этаму памятніку. На выцечку. Знаў, што там загінулі паўстанцы. А што там быў і мой прадзед – аб гэтым не знаў. Но якіясьці імпульсы, гены іլі, як хочаце называйце, нябачныя токі ад прадзеда [майму] пакаленню перадалісь. Штосьці закралася ў душу, і яно жыло і жыло. І я патом прышоў пачці што на гэты самы шлях.

Другая ішчо прычына ёсць, чаму я такім стаў. Мой бацька быў настаўнікам. Ён у школе працаваў, у беларускай. І да вайны (ён старага пакалення) працаваў у школе. А па маме дзед таксама быў настаўнікам. [ … ] Другі [дзед], [Фёдар] Шэрамет, – настаўнік, каля Радашковіч меў свой хутар. Вельмі маляўнічая мясцовасць. Часта прыязджалі з Радашковіч госці, таму што не к каму было. Інтэлігенцыі не так многа была. Прыязджалі Рак-Міхайлоўскі, Тарашкевіч,

Мятла – усе, каторых з Мінска выгналі. Уласаў[2] у гімназіі ў Радашковічах працаваў.



*Крыж загінулым паўстанцам атрада Паклеўскага ў в. Уладыкі.*
*Здымак 2008 г.*

Тут усе ані аседлі недалёка ад Радашковіч. Ані былі пачці аднаго пакалення, часта прыязджалі да дзеда ў Канатопу[3]. Гутарылі ці абгаварывалі сітуацыю, якая скалалася ў Беларусі пад Польшчай. Як палякі іх прыціскалі. Як яны арганізоўвалі Грамаду. Яны тут спорылі, пераживалі, гаварылі, разважалі, шукалі выхад, а я пад стол хадзіў. Но, відаць, штосьці адкладвалася такога. Хоць у малога, но штосьці аказвалася. Я бачу, што яны былі зацікаўлены, яны змагаліся, але ж яны былі ўзрослыя. Фарміруецца розум і чалавек не словам, а прыкладам. Так як звер і птушка дзяцей сваіх вучыць не словам, не крыкам, а прыкладам. Як ён вядзе, так і дзеці стараюцца. Таксама я. На мяне ніхто не

звяртаў увагі. Я быў маленькі. Эта быў 29-ы – 30-ы год. Ну, пака тут Тарашкевіч быў, пака яго не арэставалі. Вот эта некатары адпячатак зрабіла.



*Бацькі Раіса Фёдараўна і Пётр Фёдаравіч Яноўскія. Здымак 1925 г.*

[Бацька] был настаўнік у пачатковай школе. Канчаў ён у Барунах, [там] была семінарыя пры царэ. Працаваў ён у нашай мясцовасці. Но тут тожэ выпадковы факт. У маего дзеда была вялікая сям'я. Было 8 дзяцей – і ўсе сыны. После прадзеда, каторы загінуў, асталіся два сыны – Філіп і Матвей. Філіп, мой дзед. Яму было 51 год. Ён гаспадарку меў, добрую гаспадарку, крэпкую. Выпадкова, калі ён аб'яжджаў маладое жэрабя, эта жэрабя ў аглаблю нагой ударыла, а аглабля яму ў грудзь. І его адбіла. Лекараў і помашчы ніякой не



Ільінская польская школа. 1935 г. Каля помніка паўстанцам 1863 г.



ŚWIADECTWO SZKOŁY POWSZECHNEJ

Janowski Sergiusz

urodzony dnia 19 ... 1925 r. w Zalesiu

powiatu wilejskiego religii (wyznania) prawosł.

uczęszczał do klasy trzeciej i otrzymał

za rok szkolny 1938/9 oceny następujące:

sprawowanie ... bardzo dobry

religia ... bardzo dobry

język polski ... dobry

język ...

historia ... dobry

geografia ... dobry

nauka o przyrodzie ... dobry

arytmetyka z geometrią ... dostateczny

zajęcia praktyczne ... dobry

śpiew ... dostateczny

ćwiczenia cielesne ... dobry

Na tej podstawie ukończył szkołę powszechną stopnia trzeciego

Publiczna Szkoła Powszechna stopnia trzeciego

Nr ... im. ...

w Ilii powiat wilejski

dnia 21 czerw. 1939 r.

Nr 19

Opiekun klasy / Kierownik Szkoły

Cena 8 gr.

Пасведчанне аб заканчэнні польскай школы. 1939 г.

было, і ён ў маладым возрасце памёр. Мяне ж тады ешчо не было на свеце. Но эта ўжо бацька расказывае. Хаця ўжэ тады яны былі праваслаўныя, но дзед папрасіў перэд смерцю прывязці да яго святара не праваслаўнага, а каталіцкого, грэка-каталіцкого. А ў Іллі была грэка-каталіцкая [царква]. Ксендза, как он сказаў. Пачаму дзед перэд смерцю захацеў пайсці [са] сваёй веры? Мяне гэта ўсё ўрэмя калола.

У Малявічах[4], то два кілометры ад этага места, – нашы могілкі. Там дзед пахаронен. Баба не тут памерла, у Сібіры. Патом адзін дзядзька мой – тожа там. А прадзеда няма. Я ў бацькі: «А гдзе ж прадзед?» І только перад смерцю он прызнаўся…

І ешчо што-то мене наталкнула. Да таго, як бацька сказаў, што прадзед загінуў у паўстанні. Часта ані на палітычныя тэмы гаварылі. А мне эта ўсё сабіралася. Акумуліравалася. І калі я ўжо падрос, меня гэта пытанне пачало і задзеваць. Скрабсці. Калі мне было 14 год (гэта ў 39-м годзе), калі я кончыў паўшэхную школу ў Ільы, трэба было далей учыцца. І вот раздвоіліся жаданні мамы і папы. Бацька хацеў, каб я вучыўся на святара. [ … ] Праваслаўного. [ … ] [Маці хацела], каб я тэхнічную спецыяльнасць якуюсьці займеў.

[*Інтэрв'юер паспрабаваў перавесці гаворку на цікавую для яго тэму пасляваеннай штодзённасці, але рэспандэнт хутка вярнуўся да лініі свайго аповеду*]

Значыць, после дзеда, каторага забіла, асталася бабушка і ў яе семера дзяцей. Самы старшы быў дзядзя Нікалай. Цяжка было справіцца з малышамі. І з гаспадаркай. А ўчастак зямлі быў немаленькі после надзела, после царского. Ніхто не знае, но я так прэдпалагаю, што эта связана і з прадзедам, коль прадзед удзельнічаў у гэтым паўстанні. А ў гэтым паўстанні ўдзельнічалі і шляхта, і памешчыкі, якія былі ў той час. Кіраўніком гэтага паўстання был Козел-Паклеўскі. Но здарылася так, што перад рэвалюцыяй, ці то ў 14-м, ці то ў 12-м годзе, памешчык, каторы там кала нашай вёскі быў, запрапанаваў маей бабе, каб яна адпусціла свайго старэйшага сына. А этат памешчык у Омске трымаў канцэсію па жэлезнай дароге. Дасматрывал участак ад Омска. Паабяцаў добра плаціць, штобы лягчэй было пражыць. Бабушка згадзілася з гэтым. Дзядзя Нікалай паехаў. Он быў, відаць, адаронны чалавек. Так справы пашлі, што ешчо до 14-га года дзядзя строіць сабе дом добры ў Омску. Забірае всю сем'ю туды: і бабушку, і дзяцей. Зямлю аддают у запашку. У арэнду.

І дзядзя мой да сарака год не жэніцца, пакуль не даў адукацыю ўсім сваім братам. Ён спачатку быў прыказчыкам. Памешчык жа сам эці працы не выконваў, а трэба было каму рабіць. Усё ўзяў дзядзька ў свае рукі. Даў усім адукацыю. Адзін, дзядзя Іосіф, жэлезнадарожную школу кончыў. Двое ці трое пашло ў

настаўнікі, семінарыю кончылі. Два ў кадэцкую школу пашлі. В обшчэм, усім адукацыю дал. І рэвалюцыя прашла ў 17-м годзе, усе родзічы асталіся там.

## *З сям'і настаўнікаў*

Только бацька адзін вярнуўся сюда. Эта ў 20-м гаду, калі ўжо тут устанаўлівалася граніца. [...] Ён вярнуўся сюда на родзіну. Пацянула штосьці. Відзіма, лёс такі. Тут пабыў некатары час. Зямля была ў запасе. Жыць-то ён меў за што. Ну, і тут у гэты час устанаўліваецца этат кардон, граніца. І яго ўжо назад і не пусцілі. Ну, і што ж Вы думаеце? [...] Захацелася зноў працаваць у школе. І вот он адкрывае сваю беларускую школу. Прыватную школу ў сваёй вёсцы Залессі. [...] Я помню, у нас хата вялікая была на две палавіны. Адна палавіна была как кляс і другая, вялікае памяшканне, як кляс. Я помню, парты стаялі і сабіраліся дзеці вясковыя. Я ўжо на свет паявіўся. Я памятаю, хоць быў малы. Я ж в 25-м годзе радзілся, а эта гдзе-та 29-ы – 30-ы.

[...] Польскія ўлады відзяць, што ён немалады настаўнік, ужэ з практыкай. Здзелалі яму прапанову: калі ласка, хочаце ў школе працаваць, працуйце, но перекваліфіціруйцесь на польскага настаўніка. Паедзьце там [на] курсы. Эта ўжо ў 30-я гады, калі польская ўлада дашла да сваей сілы. Ён не захацеў гэтага зрабіць. І яны яго звольнілі. Не далі яму магчымасці працаваць. Прыслалі польскага настаўніка ў вёску і адкрылі новую школу, ужэ гасударственную польскую школу. А бацька? У него ж земля-то была свая, хата была свая. У гэты час ужэ бацька быў жанаты. Тут я радзіўся. Тут ешчо брацья, нас чэцвера хлопцаў у сям'і радзілася. Праўда, ужо ўсе памерлі. Я быў старэйшы, самы старэйшы, а ўжо ўсе памёрлі.

[...] А калі ў 39-м годзе вассаедзінілі... У него дакументы былі руского настаўніка, і он сразу падае дакументы ў раён. [Яго] прынімают і дают школу. [...] Тут пачалі калхозы арганізоўваць, зямлю ў него забралі. І ён у школе працаваў, і мама таксама. Яна после Радашкоўскай гімназіі. [Для] пачатковай школы дастаткова было гэтых ведаў, каб яна магла працаваць.

*[удакладненні пра агульных знаёмых]*

Калі бацька працаваў у Сібіры, там Калчак адступаў, его ў армію не ўзялі, ён працаваў у школе. Яго хацелі мабілізаваць, но ему ўдалося выкруціцца. Он у вайне не ўдзельнічаў. А ў 20-м годзе ён вярнуўся! І ў яго многа інфармацыі была пра Саветы, пра бальшавікоў, што яны з сябе ўяўляюць. І калі ён прыехаў сюды, я памятаю, маленькій был, калі-нікалі прыходзілі госці, дык ён ра-

сказываў, дзяліўся сваімі ўспамінамі. Расказываў, што сабой прадстаўляе Ленін, сколька ён людзей зглуміў. Сколька святароў на тот свет аддаў. Ён с эцім сустрэўся ў час рэвалюцыі. Тут у вёсцы-та это нічего ніхто не знаў. Можа быць, па-гэтаму ён аттуда і ўцякаў? [ … ] Но ён расказываў, што з сабой нясе бальшавізм. [ … ] А я прыслухоўваўся, эта набіралася ў кучу. [ … ]

А другі дзед, эта ўжэ мама сказывала, тожэ вельмі не любіл Саветы. Он был настаўнікам, царскім настаўнікам, тут у Беларусі працаваў. І вот, калі там яны ў Канатопе сабіраліся за сталом, за чаем (водкі тагда не пілі, только самавар стаяў на стале), усе эці ўспаміны былі. І он таксама знаў, што сабой нясе гэта новае абразаваніе. Эта, гаварыт, прахадзімцы. Ну, самымі кепскімі словамі ён абзываўся аб этай структуры. А народ, акруга, нікто асоба нічога не знаў. Граніца была, некатарым удавалася... Туды праз граніцу ішлі. Там свабода... Паліціка. Велі агітатары, што там рай, што там і ўсё што хочаш. Но хто пашол туда, ніхто на свабодзе не астаўся. [ … ]

Не так цяжка было і праз граніцу перайці. Палякі, яны асабліва не глядзелі за этай граніцай. Эта Саветы баяліся, каб людзі з этай стараны не прышлі. А аттуда, пажалуйста, прахадзілі. Многа было лазутчыкаў. Хаця была жэ ў Польшчы і падпольная камуністычная партыя. Вот яны і вялі ўсю эту работу. Былі і агітатары ў камуністаў. Палякі на гэта не зварачывалі ўвагі. Яны гэтага не баяліся. Калі ўжо хто-небудзь там, дак маглі палкай даць. Но нікаго не судзілі. [ … ] А вот ужэ рускія да гэтага саўсім па-другому адносіліся. Чаму мы пагарэлі па ўсей этай справе? «Чайка»[5] згарэла і мы згарэлі? Мы не зналі дзействіцельнасці савецкай. Мы не зналі гэтаго рэжыма, на што ён згодзен. Мы каварства не зналі. Вот этай самай усёй паднаготнай не зналі. [ … ] Калі б мы выраслі ў савецкай дзействіцельнасці, дык мы бы зналі, как бароцца. [ … ]

Так мы ж маладыя былі. Но эта адна справа, і другая справа, ім, можа, крыху і разукрасілі, размалявалі нашу справу. Многа палітычных элементаў падшылі да справы. У нас асноўная ідэя якая была? Не арганізаваць бойню, не вайну, а захаваць моладзь. Мы былі настаўнікамі. Нам нада было не даць русіфіцыраваць. Аставіць душу ў дзяцей такую, якая яна радзілась на свет. Вот наша цэль была. Разумная цэль была. І чаму мы, настаўнікі, за гэта? Таму што мы только бліжэй за ўсіх да будучыні. Мы фармуем гэтую будучыню. Гэта адно, і другое, што адукацыю я атрымаў настаўніцкую пасля таго, як у школе стаў працаваць. Я завочна працаваў. Мінскій цехнікум аконч<br>ыў педагагічэскій, патом інсцітут. [ … ] Паступіл, но не ўдалося ўчыцца. І я тут, калі прыезжал на сэсіі летніе, сустракаўся з настаўнікамі з усёй рэспублікі. [ … ]

## *«Чаму я пайшоў у школу?» Настаўніцтва*

Я з педагагічнай працай пазнакоміўся тады, калі быў ешчо малым. Калі мне было 10–12 гадоў, была беларуская школка. Я любіў, как бацька вуча. Ён дзяцей вучыў дзень, а вечарам прыходзілі дарослыя. Таксама атрымоўвалі асвету ў школцы. Я вярцеўся, таму што некуды было дзевацца, відзеў эта ўсё. Потым, кагда ў 39-м годзе пачаў бацька зноў працаваць, ён таксама на працы быў, на школьнай. Я хоць і ўчыўся ў гэты час у школе, но ўжэ быў взрослы. Калі-нікалі бацька быў заняты, дык мяне пасылаў на абучэніе. Я ўжо мог і гэта. Я ўжо быў азнакомлен з педагогікай. Эта адно.

Чаму я пашоў у школу? У 39-м годзе после заканчэння Ільянскай 7-годней школы я паступаў у Віленскую электрамеханічную гімназію. Мама хацела, каб я тэхнічную адукацыю атрымаў. А бацька той быў звязаны. Ён у той час у школе не працаваў, яму хацелася ўмысловай працы. А каля нас был сцеклазавод. Ён был глаўным бугалцерам на этам сцеклазаводзе. І часценька быў у Вільні, туда прадукцыю пастаўлялі. Праз яго я паехаў у гэту механічную гімназію.

У 39-м годзе я паехал, і вот экзамены ўступныя там. Са всей Віленшчыны сабралась маладзёж. Дзень экзаменаў. [ … ] Далі нам па два лісціка. Тут грыф: іме, назвіско і пытанне трэцяе – веравызнаніе! Спрашываецца, для чего? Я абітурыент, здаю экзамены, і мне нада пісаць вера[вызнаніе]... Ну пісалі бы нацыянальсць, так эта другая справа. Паляк ці беларус – эта ўжэ другая справа. А тут веравызнаніе. Якія адносіны мае вера да тваіх ведаў і да цябе? Да твайго ўзроўня? [ … ] Я пішу ад чыстага [сэрца] – праваслаўны! [ … ]

Экзамены я не праваліў, здаў. Праўда, не на атлічна. Но ані сразу бачылі, з кем яны маюць справу. Праваслаўны – значыць, гэта рускі ці беларус. І ўжо другія адносіны. І гэта адыграла роль. Я чуцьём чуў, што тут падвох у этым. Ну, і вот кончылі экзамены, вывесілі ў карыдоры на сцяне спіскі. Сматру – маей фаміліі нема. І далей спісак – кандыдаты ў студэнты. Сматру – мая фамілія. Значыць, прыняць не прынялі, а паставілі ў кандыдаты. Еслі места асвабадзіцца, тады возьмуць. А еслі нет, так і прападай. [ … ] Эта вялікі ўрон зрабіла. Эта ўжо вялікая ўраза. З польскага часа. Я ўжо зразумеў, што яны для нас гатовяць і што ад іх можна чакаць.

Саветы не лепш зрабілі. [ … ] После паўшэхнай школы ў нашу савецкую перевелі. На адну клясу ніжэй зрабілі. І лепшых вучняў пачалі прынімаць у камсамол. Мяне таксама гатовят. [ … ] Гэта такая паліціка – абязацельным парадкам, [што] учэнікі, асобенна лучшые, далжны быць у камсамоле. Хочэш не хочэш. [ … ] У нас ніхто не пытаў. Ну, і вот гатовілі нас. На первічку прінімают. Па ачэрэдзі падходзім, там камісія. Прышла мая чарга. У той час, казалася бы,

чаго баяцца мне? Бацькі мае ўжо настаўнікамі працуют у школе. У савецкай школе. Чаго ж мне баяцца? Я адказваю на ўсе пытанні. Аднака яны ўжо цікавіліся не гэтым, яны паднаготнай і прошлым цікавілісь. Ані ўжо знали, што мой бацька і зямлю меў, і ўчастак меў, і не только ў школе працаваў. У іх все эці дасье ёсць. Сматру – маіх усіх калег прынімают у камсамол, а мяне ў кандыдаты толька. Пытаецца, чаму? Дык што-та падзейнічала. Відзіма, з прошлага што-та, вот у бацькі земля была. Можа быць, ешчо што-нібудзь у паднаготнай запісана. Я был малады, я был не вінават. Но эта ўразу зрабіла. [ … ] У душы я ненавідзел ужэ. Усю відзел несправядлівасць. [ … ]

## *Саветы*

Калі пачалася вайна, пад Вільнай былі савецкія часці. А да нас позна заглянулі. У нядзелю, па-мойму… Смотрім, што-та вродзе стада ідзёт. Конніца едзе... Прыезжают бліжэй. Бачым, у аднаго сядло, а ў другога мяшок з сенам і вяроўка нацягнута. Не была сёдзел, беднасць. Адзеты – абмоткі на нагах. Такія замучаныя салдаты. [ … ] Выходзят, у каго што: хто з сметанай, хто з малаком, хто з салам да калбасамі. Ніхто нічего не бярёт. Каманда была. Спецыяльна. Людзі сразу атарапелі. Сразу пачувствавалі: што-та тут не так. Людзі чыста, з адкрытай душой шлі. [ … ] Праўда, былі палітрукі, каторыя па-своему выхадзілі да народа і асвабаждзенія Беларусі. Ну хто этаму верыл? Калі людзі жэ жылі, знаюць, у якіх умовах жылі. А савецкая дзействіцельнасць гэта пераварачывала савершэнна. [ … ]

Праходзіць недзеля-другая – Ілью, раён занялі. Ноччу варанкі пачалі, а там ужо спіскі падгатовленыя... Ужо всё зналі. Ані ўмеют работаць невідзіма. Почему і мы пагарэлі. Мы-то не зналі, што адзін на аднаго даносіт. Как і сейчас. Ты думаеш, сейчас у нас только ўсовершенствован КГБ. Ён нічуць не прапаў, не змяніўся. То, што было, у 10 раз хітрэе сейчас. І паэтаму трэба баяцца цяпер і целефонных і праслухаванняў, усяго трэба баяцца. [ … ] Сейчас жэ ў Расіі, па суці дзела, улада ў каго?У КГБ. Яны ж дайшлі да ўлады. Яны даўно аб гэтым марылі, а только цяпер, пры Пуціне, дайшлі. А ў нас нічуць не горш, мы стараемся быць ешчо класнее, ешчо лепш, чым яны, рускіе [ … ]

Адкуль мы маглі маладые [ведаць]? Мы марылі, мары былі харошыя. Но мы не зналі, чаго баяцца і як гэта рабіць. І паэтаму, калі наша «Чайка» згарэла, значыць, не только мы сустракаліся с эцім рэжымам, с этай усёй граззю. [ … ] [Каб] отзвукі аб гэтым часе атрымаць, паедзьце ў тую вёску, дзе я працаваў, у Сачыўкі, і спытайце. [ … ] Там такіе легенды асталісь, што як яны расказывалі, так я аж дажэ не верыл. У народзе саўсем другое ўражанне асталась. І людзі

захавалі. Яны гаворат. Проста аж дзіву даёшся, як людзі помняць усё добрае, што ты зробіш.

### *[пра хваробы]*

Сколько ў мяне было крытычных момантаў у жыцці! І ў час вайны, і ў час этага ГУЛАГа. Пра ГУЛАГ цяжка расказываць. Гэта горш, чым нямецкі канцлагер. Гэтыя адусюль сліўкі сабралі ў свой рэжым. Зналі, як з чалавека зрабіць нечалавека. Асобенна маральны гнёт. Палкай даставалась, эта само сабой. Па жываце білі, эта само сабой. Но глаўнае – маральна! Так вот, гэта вся методзіка. Яна тут асталася і жыве да сіх часоў. [ … ] Мне не зусім хочацца, пака ешчо варушыць сваю справу. Справа ў тым, што мы, можа, нават раней, чым «Чайка» [арганізаваліcь]. [ … ] Нас толька трое судзілі. Астальныя яны абашліся. Цяпер ешчо рана всё эта адкрываць. [Судзілі] рукавадзяшчае звено. Я быў – кіраўніком, Косця[6] быў – сакратаром, і Кабак[7] – связны наш.

[У ГУЛАГу] людзі, як на вайне ўходзілі на тот свет. [ … ] Аснаўную роль іграла – сіла волі. Так, каб сілу волі запасаць, я звяртаўся да вышэйшай сілы, да Бога. «Божа, памагі мне перэжыць». Я знаў, што я не вінават, што ў меня душа чыстая, што я только добрае рабіў. І людзям, і дзецям. І за што? Я відзеў эту несправядлівасць. [ … ]

Уся агітацыя на вёсцы, усе распаражэнія сельсавета із райкома шлі только праз настаўнікаў. Эта только ў савецкай школе гэта было. Я знаю і дасавецкую школу, і пры немцах пачаў у школе працаваць. Там чалавек сам быў гаспадар сваёй справы, сваёй педагогікі. А тут не! Ты перад тым, як пайсці да дзяцей, павінен напісаць канспект урока. Падробна, тэма, што, как. Новую тэму выкладаць. Каго спытаць? Што спытаць? Этыя самыя канспекты трэба было зацвярджаць. Калі хто-небудзь з настаўнікаў без канспекта, яго выганялі са школы.

Выбары ці нявыбары, якое пытанне, райком пасылал [настаўніка]. Хто даносіў да насельніцтва? Настаўнік. Былі спецыяльна маленькіе такіе кніжкі агітатара. І ты ўжэ [ … ] па этай кніжачцэ. Не сам ад сябе, а ты ўжо па гэтай маленькай кніжачцы чытаў. [ … ] Выбары былі, у выбарах абавязкова настаўнікі ўдзельнічалі. Мы маладыя былі, так нас пасылалі. Там палавіна вёскі прышло, а палавіна не прышло. Паехалі туда. Нікаго нігдзе нема. Людзі не хацелі галасаваць. Усе пахаваліся. [ … ] Так што ж ты думаеш, сабраліся, пцічкі ўсім паставілі ў бюлетні, бросілі, і ўсё. Вот так 100 % выбараў дзелалі. [ … ] Людзі да гэтага абыякава аднасіліся. Праўда, былі выскачкі. У каждай вёсцы быў спецыяльна купленый чалавек. Яны на каго нужна, мацерыялы, усё расказывалі,

што робіцца ў вёсцы. Гэтыя людзі так і падохлі. [ … ] Помню, я сустракаўся з такімі, у бацькі вучыліся ў школе. Былі такіе подлые.

## *Пры немцах*

Калі прышлі немцы ў 41-м годзе, у нас, у Ільы, адкрываецца беларуская школа. Семігадовая. Інспектарам у школе была Сухая Галя. Яна кончыла Віленскую гімназію. Сама ільянка. Яна была кіраўнічкай аддзела народнай адукацыі. Польскія настаўнікі пры Саветах многія ўцяклі. І пры немцах некаму было ў школе працаваць. Дзеці пустапасам бегалі. Трэба было арганізоўваць школьніцтва. Для такіх, як я, падросткаў, каторым па 15–16 год, зрабілі курсы педпадгатоўкі. [ … ] У Ільы. [ … ] Папа з мамай пашлі ў школу, ім не трэба было перавучвацца. А нас трэба было падрыхтаваць. Часць моладзі майго ўзросту з Вілейкі і з мястэчкаў. А ў Вілейцы была ўжо настаўніцкая сэмінарыя. [ … ]

[Пасля мы паехалі ў в.] Лугавыя[8], гэта кала рэчкі Ілья. Там усё арганізавалі. Ну, і пачалі працу. Праўда, мяне праз два ці тры месяцы пераводзят у Раёўку. Там быў гарнізон немецкій, кардонная фабрыка. [ … ] Там была з большай колькасцю [вучняў] школа. Дзве настаўніцы працавалі, і меня туда дырэктарам. [ … ] Палюбіў працу ў школе, вельмі палюбіў. А можа быць, перадалась штонібудзь і ад бацькоў. І ад дзядоў [ … ]

Вот тут мы сапраўднымі былі гаспадарамі таго, аб чым марылі. Нам далі дзяцей. Ніхто да нас, ніякія ўлады не лезлі. Немцы не цікавіліся гэтым. А мясцовая ўлада толька дапамагала, каб школа працавала. А ты тут ужо быў сам сабе гаспадар. Падручнікаў ніякіх не было. Бумагі тожэ не было. Даставалі гдзе што, на чом пісаць. Ваенны час. Снабжэнія нікакога не было. Так вот, мы бралі савецкія падручнікі. То, што не трэба было, альбо вырывалі, альбо пераіначывалі. Задачку, калі яна мае адзін змест, рабілі другую начынку. Каб дзецей не траўміраваць. Цяжка было працаваць. [ … ]

Палучалі мы і зарплату. Калі прышлі немцы, нашы ўлады мясцовыя з заботай аднясліся да школьніцтва і агулам да жыцця грамадскага. Я знаю такіе факты, каторые рубам становяцца, калі сейчас аб іх гаварыць. [ … ] Калі толька немцы паявіліся, сразу палезлі да ўлады палякі. Старая інцелігенцыя, гдзе хто сідзеў. І ім хацелась, як калісьці верхаводзіць. [ … ] Сразу палякі павелі сваім уклонам. Как будта бы тут не Беларусь, а Польшча. Немцы эта скумекалі, і праз нейкі час іх всех за жопу і вон. І тут пачалі нашых людзей падбіраць[9]. [ … ]



ZEUGNIS

Hiermit wird bestätigt, dass Janowski Sergiej, Sohn Peters der [illegible] 19 August im Jahre 1925 in dem Dorf Saluski Kr. Wilejka geboren ist, im Jahre 1941 in die 7. Klasse der siebenjährigen Schule in Ilia Gemeinde Ilia Rayon Ilia eingetreten ist und diese Schule im Jahre 1942 beendet hat.

Bei sehr gutem Betragen hat er (sie) folgende Erfolge aufzuweisen:

| | |
|---|---|
| Weissruthenische Sprache und Literatur | gut |
| Deutsche Sprache | gut |
| Mathematik | sehr gut |
| Physik und Chemie | sehr gut |
| Naturkunde | sehr gut |
| Geographie | gut |
| Geschichte und Bürgerkunde | gut |
| Handarbeit | — |
| Zeichnen | sehr gut |
| Gesang | — |
| Turnen | — |

4. Juli 1942

Schulinspektor [illegible]

Schulleiter [illegible]

Chodzinski A.

*Пасведчанне аб заканчэнні*
*беларускай школы. 1942 г.*



**Пасьведчаньне**

Гэтым сьведчыцца, што Яноўскі Сяргей Пятровіч нарадзіўся дня 19 месяца VII 1925 г. у в. Залесьсі Вілейскай акругі паступіў у 1941 годзе у [illegible] клясу Ілеўскай [illegible] семігадовай народнай школы Ілеўскай воласьці Ілеўскага раёну і скончыў гэтую школу у 1942 годзе.

Пры вельмі добрых паводзінах выявіў наступныя посьпехі:

| | |
|---|---|
| У беларускай мове і літаратуры | добра |
| „ нямецкай мове | добра |
| „ матэматыцы | выдатна |
| „ фізыцы й хіміі | выдатна |
| „ прыродазнаўстве | выдатна |
| „ геаграфіі | добра |
| „ гісторыі й грамадазнаўстве | добра |
| „ ручной працы | |
| „ рысаваньні | [illegible] |
| „ сьпевах | |
| „ фізычным узгадаваньні | |

4 - ліпеня 1942 г.

Школьны інспэктар [illegible]

Кіраўнік школы [illegible]

Выкладчык Хадзінскі А.

*Пасведчанне на*
*беларускай мове аб заканчэнні*
*беларускай школы. 1942 г.*



**Пасьведчаньне**

Гэтым сьведчыцца, што ён Яноўскі Сяргей Пётравіч жыхар вёскі Залессе 1925 году нар. скончыў ад 15-VII да 17-VIII у Ілі месячныя метадычна-педагагічныя курсы для некваліфікаваных настаўнікаў.

Ілья дня 17-VIII 1942 г.

№ 3

Кіраўнік курсу

Выкладчык Шкурко

Школьны інспэктар [illegible]

*Пасведчанне аб заканчэнні курсаў беларускіх настаўнікаў. 1942 г.*

## *Партызанка. Палон. Уцёкі*

Нас адразу, – ну, што мы, маладзёж, не абучаныя, пораха не нюхалі, – всю зіму муштравалі. Усех прызыўнікоў. Не только з нашай вёскі. І з другіх. Там гдзесьці чалавек 20. Цэлы взвод набралі такой маладзёжы. Абучалі агнявой падгатоўцы і тапаграфічнай. Нікуды нас не ганялі, мы только неслі ахрану мясцовую лагера. І гэта да 44-га года до 23 лютага. 23-га – Дзень Чырвонай Арміі, нас заставілі прысягу прыняць. [І з гэтага часу] пачалі называцца партызанамі. Наш атрад, як і другіе, меў свой пост возле Ільі. І дзень, і ноч караулілі, каб ніхто не прашоў. Гэта атрад Смоліна быў. [ … ] Брыгада імя Фрунзэ. [ … ]

Весна прішла, і пачалася паследняя блакада. І ў эту блакаду нас пагналі на Березіну в балота. І там у такія ўмовы папалі, што сабралі з этага катла Вілейскаго і Лепельскаго тысяч 10–15 партызан у адно балота. І там мы рабілі прарыў, хацелі вырвацца. Неўдачна. Праз шасейку Мінск–Плешчэніцы. Штобы пайці зноў на свае раёны. Калі мы сабраліся после этага прарыва і нас прасчыталі, только трэцяя часць лічнага састава [засталася]. І гэта не только в нашэм атрадзе – ва ўсіх атрадах было. Нас ганялі, як зайцаў. Пака не дагналі да Берэзіны. А там ужэ безвыхаднае палажэніе была. Камандзір атрада наш загінуў. Камісар астаўся. А мы ж былі не вааружонные. [ … ] Несколько вінтовок было на атрад. [ … ] Мы не маглі ваяваць...

Калі ўжо было безвыхаднае палажэніе, трэба было ў балота іцці. Камісар гаварыць: «Спасайцесь, хто як можа». Мы дзержаліся з сваёй вёскі групай. Нас шэсць чалавек. Чацвёра былі ў другім атрадзе. Рэшылі схавацца ў лесе, замаскіравацца. Каб блакада прашла. Нам эта не ўдалась. Мы цэлый дзень пралежалі ў зямле. Начала смеркацца. Думалі, што ўжо кончылась. Только паднялісь, хацелі ногі размяць немножка. Голад быў, ужо сколька дней не елі. Пашлі шукаць дзе-небудзь вогнішчы старыя, штобы што-небудзь знайсці там кала вогнішча. І якраз цэпь на нас. Но яны нас не заўважылі. Мы прыгнулісь. Порасль вялікая была, многа старых калод, згніўшых, абросшых мохам. Калоду паварачывалі, выкапывалі дол. Зямлю аднасілі ў балота, хавалі, маскіравалі, каб было незаўважна, і назад калоду клалі. [ … ] Мы выкапалі два такіх дола. Я з Валодзем Шышкам залёг. [ … ]

Калі мы ўвідзелі [салдат], мы сразу на карачкі, ракам, каб падалей адбегчыся. Ужо аб ямах і думаць нечэго было. Ну, і пёрлі сколько, хто маглі. Нас не заўважылі. Мы як ляцелі з Шышкам, з Валодзем. Бачым: вывернутая ёлка, густая, вялікая ёлка ляжыць. [ … ] І мы пад эці веткі залезлі. [ … ] Перад эцім хлопцы далі адзін аднаму слова, што еслі каго-нібудзь найдут, каб не выдавалі другіх. Я з Валодзем. А Коля Залескі і брат Шышкі пад другую ёлку залезлі.

Іван Зінкевіч – ён быў добры верхалаз. Яму захацелася схавацца ў ёлцы ды на вярху. Праходзе час. Ціха. Нігдзе нічого нема. А патом чуем голас Івана Бабкевіча, нашага хлопца з вёскі: «Валодзя, Сяргей, Коля, гдзе Вы? Не бойцесе, тут сваі». Мы ляжым, не верым, хоць чуем, што голас яго, но лежым. І патом чуем, як цэп падашла да нашага месца, і сабака заўважыў і – гаў, гаў! Тут ужэ некуда дзевацца. Ну, што будзет, то будзет. Вылазім. У нас аружыя нет. Хаця мы і называемся парцізаны.



Пролетарий всех стран, соединяйтесь!

ИНСТИТУТ ИСТОРИИ ПАРТИИ ЦК КП БЕЛОРУССИИ

П А Р Т А Р Х И В

"30" марта 1960 г. г.Минск, ул.Красноармейская 4/43 тел.2-16-96

№2033/з На В/№ ______ "____" _________ 195 г.

Гр-ну ЯНОВСКОМУ С.П. /на заявление/

АРХИВНАЯ СПРАВКА

ЯНОВСКИЙ Сергей Петрович, 1925 года рождения, числится рядовым партизаном Белоруссии Великой Отечественной войны с февраля 1944 года по июль 1944 года.

Архивная справка составлена по материалам партархива ЦК КПБ.

ЗАМ.ДИРЕКТОРА ИНСТИТУТА ИСТОРИИ ПАРТИИ ЦК КП БЕЛОРУССИИ ПО ПАРТАРХИВУ. (С.ПОЧАНИН)

*Даведка пра ўдзел у партызанскім руху. 1960 г.*

Аказываецца, мы папалі на ўкраінцаў. На цэп. На ўласаўцаў. Ну, а ўласаўцы былі ў арміі нямецкай, і яны блакаду праводзілі. Камандзір у іх быў немец. А ўкраінцы все гаварат па-рускі. «Хлопцы, – как гаворыцца, – не бойцесь, мы вас біць не будзем. Но прыказ такой, каб мы вас бралі, і ў Германію паедзеце». Відзят, што мы галодные, кармілі, у каго што было. Далі нам і сухароў, і хлеба, і масла. [ … ] Івана Зінкевіча, каторы на ёлку залез, не заўважылі. Но цэп шла і якраз на гэтым месце астанавілась на начоўку. Іван, эты бедняжка, на ёлцы всю ноч праседзеў. Он дзягу[10] зняў і прывязаўся за верхушку дрэва, і так праспаў усю ноч на ёлцы.

Мы, помню, два ілі тры кастры зрабілі – і самі абсохлі, і салдаты таксама грэлісь. Всю ноч мы працавалі. Спаць – не спалі, мы насілі, штобы кастры былі. Прышла раніца, ну, што ж нам будзе. Вродзе свае хлопцы, вродзе ўкраінцы.

Патом гатовіцца далей ужэ цэп ісці. Блакада. Нас загружают. На плечы застаўляют браць і рацыі, і інвентар, каторы яны з сабой няслі. Цэп пашла, а мы за цэпью. Мы да абеда, мабыць, ішлі. Вышлі з леса на поле, а там людзі. Блакада шла, і гдзе каго лавілі, усе туда. Лагер абразавался злоўленых, пленных, считай. Там і бабы былі, і старікі з дзецьмі [ … ] і такіх, як мы, маладзёжы.

К вечару нас сарціруют. Дзяцей, жэншчын і старікоў аддзельна. А работаспасобных аддзельна строят калону, выганяют на дарогу і гонют у сторану Плешчаніц. Вёска Ваўкалакі, кала Бегомеля. [ … ] Нас у Ваўкалаку прыгналі, а там ужо ўсе сараі, усе хлявы загружаны людзьмі. У час блакады каго лавілі адпраўляць у Нямеччыну. Працаздольных людзей усіх. Каб абезапасіць сябе, каждае раніцою калону строілі шырыной у 6–8 чалавек [і праганялі] па этай самай шасейцы ў адну і ў другую сторану. Былі выпадкі, партызаны, якім удавалася прабрацца, мініравалі дарогу. [ … ]

А патом началі нас ладаваць у машыну і спачатку [павезлі] у Плешчэніцы. У Плешчэніцах была цюрма. [ … ] А з Плешчэніц перавязлі ў Мінск, у Масюкоўшчыну. [ … ] Калі немцы прадчувалі, што ім прыдзёцца драпаць з намі, маглі развітацца разнымі спосабамі. Маглі і расстраляць, маглі што ўгодна. Мы на добрае ад іх нічога не чакалі. [ … ] Ну, у канцэ канцоў, значыць, нас выганяют. Ужэ перад самым асвабаждзеніем Мінска. Всех. Нас была большэ тысячы, палтары ці дзве. Строят в калону. [ … ] Выганяют за горад і гонят. [ … ] Гонят нас на Брэст. За первый дзень нас дагналі [ … ] да Фаніпалі. [ … ] Мы пераначавалі. А нас, кагда выганялі, каждаму на дарогу булачку хлеба давалі этага нямецкага, небальшая булачка. І большэ нічего. Ніхто ж нічего кушаць не мог. Так мы пака дашлі, вышлі з гораду, так ні ў каго нічего і не осталось. Усё і паелі. Галодныя ж былі. Говорят нам, што нас в Германію ўвозят. Ну тут і верім, і не верім. І многіх нервы пересталі выдзержываць. Ну, хоць у рот, хоць травінку палажыць – і то харашо. Многіе гонят, сагінаюцца [каб] вырваць. І тут сразу очэрэдзь. Так і асталісь. Не цікалісь, дажэ не предупреждалі. [ … ] Ну, і вот, втарой дзень нас гонят. Но без воды, без нічего. А жара, это іюнь месяц. Нас дагналі да Койданава.

І вот Койданава, возле нас поле. Жыта засеяна. А жыта ўжэ немножко подросло. Нас сагналі ў кучу. І мы ўжэ відзім, што будзем начоўку дзелаць. Ацэпілі нас, пулемёты везде кругом, на углах стаяць. І мы на голым полі. Жыта эта всё вырвалі. Харошае, вкус смачны. Тут беспрерывно всю ночь по дороге беженцы отступают. От города же недалеко. Ну тут пад утро супакоілась немнога. Паднялі мы голавы. Ваабшчэ, ціха стала. Вечарам абозы шлі на Баранавічы, на Стоўбцы. А утрам аттуда ужэ начінают ехаць. Ужэ перерезалі отступленіе немцам.

Немцы [ … ] хацелі нас тут всех палажыць. Паэтаму і такой канвой был. Но тут как раз атступалі батальён ці корпус літоўскіх ваяк. Ані тожэ адступалі, но ўжэ в Літву, к себе домой. Відзіма, нас і спасло, што нас передалі ў рукі літоўцаў. Ну, а эці, как бы там ужэ ні было, но это ўжо полунашы людзі. Літоўцы сказалі, што «вас хацелі пабіць, но мы спецыяльна вас гонім до Літвы». Многа перебілі немцы, кагда гналі. Літоўцы тожэ не очень-то, потому что ў ніх там тожэ былі разные ребята.

[ … ]

І нас пагналі с Койданава ўжо не па дарозе на Стоўбцы, а павярнулі на Ракаў, на Івянец, Валожын. Мала руху на этай дарозе, пралескаў много ёсць. Там удавалась кое-каму [збегчы]. І вот вёска перад Багданавам. Вёска вялікая. Перад гэтай вёскай перадышку ўсе рабілі. А перадышкі эці больш за ўсё рабілі тады, калі трэба было ахране пасілкавацца. Перасчыталі – і што-то нас полтысячы чалавек не хватает ужэ. [ … ] І рашэніе такое прыняў у душы, што ў гэтай вёсцы я павінен [збегчы]. Калі нашу калону гонят праз вёску, мясцовае насельніцтва хто хлеба кідае, хто жбан малака. [ … ] Дык нас перад каждай вёскай зжымалі гуртам, цесным такім, і пад рукі застаўлялі адзін аднаго браць і бягом. Вёску праляцім, патом апяць і бягом. Вот і канвой бег, і мы беглі. [ … ] Эта [вёска] Сакоўшчына. [ … ]

Ну, і вот, гонят бягом. Тут спередзі салдат недалёка [перада мной]. Наступныя там гдзе-та, далей. Я раз, ракам. І ў калітку. І всё. І стрэлу няма – значыць, не заўважылі. Тут калітка, тут лаўка, тут сразу ганак. На этат ганак, так як будта бы я гаспадар ужо. Селянін. Ну, людзі жэ жывут. Я сразу на кухню. Думка, самая галоўная, што-нібудзь найсці на язык. Мы ўжо двое ці трое сутак у дарозе. Неўцерпёж. Людзей, нікаго ў хаце няма. Стол на кухні стаіць. Шуфляда. Там скарынкі якіясьці. Я эці скарынкі сразу ў рот. [ … ] І тут двер у другую хату. Так не саўсем закрыта ўжо. [ … ] Чэрэз шчолку віжу, а там у яго хаце кала сценкі 2 ложкі стаяць, дзе людзі атдыхают. Кут чысты, стол стаіт, адзін немец абуты ляжыць, спіць на ложку. А втары што-та там на стале ці піша, ці чытае. Яны мяне, можа быць, чулі. Но думалі, што гаспадар. [ … ] Я вёдра ўзяў, ешчо такое гаспадарчае. Выходжу ў двор, а тут хлявы стаяць, думаю, трэба гдзесьці схавацца. Аказваецца, у этай вёсцы матарызіраваныя часці немецкія атдыхалі.

Вот свінарнічкі ў вёсцы. Ну, думаю, у гэтым свінарнічке ў землю буду хавацца. Сматру, загружан. І сеткі рыбацкія якісьці, і калёса, і санкі. Ну, я думаю, ад сценкі атвярну і лягу. Только я пачаў атварачываць. А там такой, як я, ужэ лежыт адзін. З Лепеля хлопец... Ён не ў хату пайшоў, а сразу ў этат свінарнічак. [ … ] Ён ужо і збялеў. Думаў, што гэта немец. Я ўжо кое-што ўзяў. У жбанку

кіслае малако было крыху, там ешчо што-то. Я его пакарміў, і мы захаваліся. Удваёх веселей. Знаем, што трэба чакаць ночы. [ … ] Вот вечарэе. За эты час нашу калону ўжо прагналі. [ … ] Мы ешчо не зусім уверэны, што спасліся, што жывыя асталіся. Сцямнела. А летам ноч-то кароткая. Патом чуем: у зямле ляжым. Самалёты гук. Мы зналі ў ваенны час, калі наша авіяцыя ляціць і калі немецкая авіяцыя. Яны мают розны адценак гука.

Тут ужэ фронт шол, перадавая. Патом бамбіць началі эту вёску. [ … ] На расвеце мы ўжэ думаем – трэба. Мы ж не ўверэнные, мы не знаем, тут есць ахрана якая-небудзь ці няма. Мы ракам-ракам, кала плота, у гумно. А за гумном там ужо поле было, засеянае жыта. І яно ўжо паднялося ў получалавека. Мы у баразну, тожэ ракам. Не ў рост. Па баразне, дзесьці так з полкілометра адпаўзлі. Ціха, спакойна – значыць, ніхто нас не заўважыў. Вот тут мы ўжо пачувствавалі, што мы на свабодзе. І тут река Березіна працякае. Небальшая рэчушка, неглубокая, па калена. Мы вот у самую ў рэчушку, папілі. [ … ] Тут мы пачалі цэлаваць і землю, і адзін да аднаго. Ужо пераканаліся, што будзем жывыя.

Не многа прашлі. Можа быць, кілометра два. Хутар, дым ідзе вот з коміна. Значыць, гаспадыня дома, штосьці варыць есці. Уж есці хочацца. Мы да этай жанчыны. Яна бліны пячэ. Відзіць, якія мы зморанья. Мы гаварым, што вот мы драпанулі, нас гналі ў Нямеччыну. Што мы самі родам от з-пад Краснага. Гдзе Ілья. Збольшага гаварым свой лёс. Ані нас пакармілі. Скора хазяін прышол. «Маладые людзі, – гаварыт, – тут фронт падходзіт. Кілометра два-тры ў Забжэзе[11]. Вы гдзе-нібудзь ідзіце, хавайцесь, таму што мы таксама ў лес ідзём хавацца». [ … ]

Мы падзякавалі. Вышлі. [ … ] Такая згадка прышла, што будзем хавацца ў рэчцы. У рэчку ніхто асоба не лезець, а рэчкі заросшые кустамі. З берага не падайдзёш, там сплашныя кусты. А мы ў рэчку, ана неглубокая. Спускаемся і пад берег, пад кусты, лажымся ў ваду, закрывает нас лаза. Ідзі па рэчцы – нас не заўважыш, і ідзі па беразе тожэ. Ну, і думаем ужэ [мусіць] фронт прайсці, кананада чуваць. Па звуку можна зарыентавацца, дзе знаходзіцца. Ну, і мы там палежалі. Тут усіліваюцца, усіліваюцца кананады. Лежым спакойна, патом чуем: даходзіцца рускі мат. І такой, знаеш, крэпкій рускій мат. [ … ] Мы ўжо дачакаліся сваіх, так сцытаем. Вылазім на бераг, а тут, метраў 200 па рэчцы ўверх, брод быў. Шла как раз арцілерыйская часць. Небальшые пушкі, гарматы. Дык іх уручную перецягівалі. [ … ] Тут ані і прыменялі свой рускі мат.

Мы паднялісь. Так і ідзём у іх напрамку. Гаварым, што былі ў плену, вырваліся і прабіраемся дамой. Ані відзяць, што мы знішчаныя такія. Пакармілі. Далі нам сухароў, далі ешчо штосьці. Яны сваёй справай занімаюцца, а мы

сваей. Ужо сарыентаваліся. У гаспадара, гдзе мы былі, он расказал, як нам прабірацца да Маладэчна, да Краснага. Як нам дамой дабрацца.

Парэнь, салдацік маладой, каторый там... «Ну нічего, – говоріт, – скоро вы будзеце с намі». [ … ] А мы ж тожэ маладыя. Знішчаныя эта ж, знішчаныя. Дохлыя, то дохлые. Но падкормяць – і тожэ будзем ваяваць. Значыць, не крэпка трэба давярацца, таму што можна папасці з полымя ды ў вагонь. Пачынаем мы ісці... І падходзім мы да Забжэззя. Эта маленькае мясцечка, там тракт. Там фронт прашол. [ … ] Перед Забжэзем какой-то хутар был. Ну, думаем, зайдзём сюда, распытаем што-як. Абстаноўку. Людзей мы не баяліся мясцовых. Заходзім у хату, бачым, што эта якаясьці каталіцкая сям'я, усе на каленях стаяць перад абразом і моляцца. Мы, як хрысціяне, псіхалагічна, каб падтрымаць і каб знайсці большае паразуменіе ў іх, таксама на калені сталі. Хоць у другой хаце. [ … ] Памалілісь, потым яны паднімаюцца. Мы ім расказалі, што вот мы так і так, уцёклі з няволі і прабіраемся дахаты. Яны расказываюць сітуацыю, якая ў іх злажылася. [ … ]

Яны нас зразумелі, і з сабой крыху далі і началі нам падсказываць, як лепш прабрацца ў свой бок. І таксама папярэдзілі: глядзіце, не пападзіце ў рукі. Патаму што была такая каманда, што каждая наступаючая часць воінская мае права сабе браць папаўненне. Значыць, мы ідзём, но не па дарогах, не па бальшаках, а ўскрайкамі, гдзе-нібудзь каля ляскоў. Хаця і ў лес вялікі тожэ баімся заглядаць. [ … ] І мы падашлі ўжо аж пад Маладэчна. Вёска Холхава. Жыта ў пояс. Так мы праз вёску не пайшлі. Лес далёка, мясцовасць адкрытая. Выбіраем такіе сярод жыта трапінкі, гдзе можна прайці.

Мы і не заўважылі, што ідзём па мяжы... А супроць нас ідзёт група вот такіх, як мы, маладзёжы, каторых ужэ па дароге взялі в папалненіе ў армію. [ … ] Мы сашлі дарогу, штобы даць ім прайсці. Калона праходзіт, ані астанаўліваюцца. І зацікавіліся намі. Гаворым, так і так, што мы былі ў плене, уцяклі і ідзем дамой. «Ну, маладыя, – гаварыт, – пайдзём ваяваць. Мы Вас будзем і карміць, і адзенем». І не пускаюць. Мы і туда, і сюда... Нічего. Нет і всё. Хоць ты страляй! І абідна, панімаеш? Папалі на свабоду, і вот цебе свабода.

А ў ніх часць іхная на перадавой, эта гдзе-та кала Вішнева. І всю ноч мы ідзём. Адзін аднаго пад рукі дзержым. Першы раз у жыцці я запрімеціл асабіста на сабе, што калі чалавек змораны, дык ён можа спаць і ісці. Мы с эцім хлопцам маім дзержаліся рукі. І былі такія маменты, што вот спім, патом чуцьчуць праясняеццца, вродзе ідзём. За всю ноч мы в канцэ канцоў пад Вішнева дабіраемся да сваей часці. Эта выходзіт, мы прашлі гдзе-та кілометраў 30–40. [ … ] Нас набралі так чалавек кала трыццаці. Пакармілі. Мы так ужэ счытаем, што вот начнецца другое жыццё. Пераадзенут нас, і будзем ваяваць. Прахо-

дзіць час, можа быць, затрымка якаясьці. Патом прыходзе палітрук ці камандзір. І робе нам неспадзяванку. «Таварышчы, – гаварыт, – вы все свабодны. Есць указаніе вас распусціць по своім раёнам і прайсці мабілізацыю чэрэз райваенкаматы». А чаму? Многа паліцаеў так вот папала і другіх элементаў, каторых не дапускалі ў армію.

[…]

Мы гаварым: «Як жа нам нада туда-туда… Вілейка, Маладзечна. Як даехаць, нас могуць задзержаць?» Далі нам запісачку ад рукі, што разрэшаецца такому-то такому даехаць да такога, да такога. Вярнуцца дамоў. І адрас указываюць. А тут на перадавую ўсё время шлі машыны. То амуніцыю падвазілі, то прадукты прывазілі. Дак нас на грузавую машыну, каторая шла ў тыл за снабжэніем. Падвезлі да Маладэчна, а там ў Маладэчна другая машина, да Краснага давезлі. А з Краснага – пехатой дамой. […]

І вернулся я после этага всего. Мама не думала ўжэ, што я жыў астаўся. Так хто мог думаць? І парцізанка, і плен, і ўцёкі, і ўсё…

## *Пасля вайны*

З палону дамоў вярнуўся. Эта 44-ы год. Там ужэ асвабаждзённая церыторыя. Устанаўлівалась савецкая ўлада. Нас сразу ўзялі, зарегістріровалі. У ваенкамат я тожэ пашол, но ў ваенкамаце патрэбны былі настаўнікі. А ў мяне ўжо была і практыка. І дакумент быў, што я хоць свежаспечаны, аднако настаўнік. І нас регістріруют у настаўнікі, дают школу ў Сачыўкі. І ўжо ў 44-м годзе я еду ў школу працаваць. Паехаў у школу, хаця і вайна была, нам бронь даюць, таму што дзяцей трэба было вучыць. Так што дома я только грэўся. У гасцях быў. […] Кончыў я тэхнікум. І сразу ў настаўніцкі інстытут. Ён тады быў на Якуба Коласа на развілке, гдзе басейн плавацельный. […] Я дакументы аддал і адну сэсыю праслухаў. Заканспектаваў, што трэба было. Ужо гатовіўся на наступны год прыехаць і здаць экзамены за першы курс. На матэматычны факультэт…

[З Супруном[12] пазнаёміліся] калі нас судзілі і вмесце свезлі. Мы да этага не зналі адзін аднаго. Ён быў у сваім раёне, я – у сваім. У нас з Сачывак Кабак Антон. Ён учыўся ў Ганцавічах, у педцехнікуме. І Супрун там вучылся. Праз няго ў нас сувязь зрабілася. Ён прыязджаў дамой, расказаў мне пра Супруна. А Супруну расказаў Кабак пра мяне. І мы ўжэ зналі погляды адзін аднаго. І цэль, і ідэя ў нас адзінакавая была. То, што распісалі ў газэтах, гэта ўжо з мухі слана зрабілі. Па суці дзела, у нас более скромная, более культурная была мэта – захаваць беларуса, захаваць ідэю[13]…



Ивьевский
РОНО
1.10.1944 г.
№ 217.

Удостоверение.

Выдано учит. Яновскому Сергею Петровичу в том, что он действительно работает в Сочивской начальной школе по должности заведующего школ с 24.9.1944 г.

Зав. РОНО /[illegible]/

*Пасведчанне аб працы ў Сочыўскай школе.1944 г.*



*Сяргей Яноўскі перад арыштам. 1946 г.*

[*пра штодзённасць, калгасы і гаспадарку, адказы Марыі Яноўскай (жонкі) на пытанні інтэрв'юера аб пасляваеннай штодзённасці*]

## «Як да мяне дабраліс…» Арышт. Суд

Сам орэст. Як да мяне дабраліс? Эта 47-ы год. Канец ці палавіна жніўня. Мне трэба было дамой. Но я ешчо захацеў з'ездзіць у Маладэчна, перад школай. Там у мяне дзядзька жыў. Только он жаніўся. Накануне гэтага камендант (пры педінстытуце было абшчэжыціе, гдзе мы жылі) прышла. І ей ні с таго, ні с сего патрэбаваліс паспарта. Ужо, відзіма, паступілі какіе-то указанія. Я на эта не звяртаў увагу. Падумаеш, паспарт. Здал я этат паспарт. І вот мне нада ехаць, без паспарта не хацел, у дарозе заўсёды прыгадзіцца. Я абраціўся ў дэканат. [ … ] Яна замялася сразу. Ей, відзіма, далі ўказанне аддаць мне паспарт. І тут у мяне следам хадзілі, па пятам. Но я не знал. Я быў не гатоў да гэтага. Калі б знаў, што наша група ўжэ сідзіт, я бы, можа быць, па-другому аднёсся да этага.

Памятаю, я хацеў раніцою паехаць у Маладэчна, а вечарам вярнуцца. Многа часу не траціць. Паехаў на станцыю. Хадзілі прыгарадныя паезда. Іду каля састава. Вагоны былі переполнены, народу вельмі многа. Заўважылі мяне дзяўчата с нашага курса, тожэ настаўніцы. Ехалі после сесіі, варочаліся дамоў. З Маладэчна, [ці] з раёна Маладэчэнского. Яны завуць: «Сяргей, ідзі места найдзём». Я абрадаваўся, што места будзе. Я бокам-скокам, но ўціснуўся. Яны пасунуліся, я чэрэз ніх сеў, вот і едзем. Да атхода асталось, ну можэт быць, мінут 5–10, не болей. Патом ні с таго ні с сего, у нашэ купэ, у цывільным... мужчына. Не стары такой, сярэдняга ўзросту. У наша купэ праціснуўся і зварачываецца да мяне: «Маладой человек, вы былі на вокзале і поднялі документ». Я на яго глаза, гавару: «Какой вокзал? Какой документ? Я нічего не падымаў. Мабыць, памыліліся? Я не быў на вакзале. І нічога не паднімал». Ён настаівает: «Мне ўказалі, што вы паднялі чужы дакумент. Ну пайдзёмце, разбяромся». Я нічога не знаю за сабой. І нічего не баюся. Падняўся за нім, выцянулся. Ну, думаю, разбяромся скора.

Тут сразу он меня на вакзале [в міліцэйскую комнату]. Гаворыць: «Садзіцесь». А сам куда-то вышел. Я там пробовал с міліціей, даказываць, штоб разобрацца. «Вы сідзіце», – успакаівает мяне. Тут я смікіціл, што эта лавушка. Такім спосабам мяне на кручок узялі, славілі. Но ешчо пака не даходзіт мысль, што эта связана с працай с нашай. Можа быць, дзейстііцельна, думаю, какінебудзь паклёп ілі што-небудзь такое. Паспорт мой сразу ўзялі да сабе, і этат чалавек, каторы мяне прывёл, он з сабой забрал этот паспорт.

Я сіжу, [думаю], дай-ка я попробую, можэ быць, махану. Звяртаюся да эціх міліцыанераў, што мне па сваей надабнасці. «Калі ласка». І сразу ішчо адзін выходзіт. Адзін у двярах становіцца, другі за мной. І ідуць радам в туалет. Тут я смікіціл, што я ў лапах. Праз час прыезжает і этат, і ешчо з ім якісьці. «Ну пайдзёмце», – звяртаецца да мяне. Выходзім мы на Вакзальную плошчадзь. Там ужэ казёл стаіт. Садзімся ў казёл, і паварачывает. Я ўжо крыху знал. Сматру: прама ў Амерыканку, гдзе КГБ. Заводзят туда. Заходзім, там здают мяне дзержурнаму какому-то ў этам памяшканні. І ўходзіт, пака нічога ніхто не пытае. Проста задзержалі мене. Патом і начую я ў гэтай хаце. Праўда, са мной начуе і міліцыанер.

[…]

На другі дзень прыходзе палкоўнік, Сапёлкін па фаміліі. Он был начальнік контрразведкі. «Так вы решілі бороться протів советской власті», – сразу мне. Ешчо вопрос задал. Я отріцаю. Я нічего не знаю. Відел, что оні плавают. Я решілся прікінуться, что нічего не знаю. Патом берёт он меня с сабой і ідзём к Цанаве. Заходзім, я віжу, што ён навыцяжку стаў. І тут ешчо военные, тоже навытяжку. А этот, как парсюк, сідзіт за сталом. Ілі на дверах было напісано… Но я знал, что мы к Цанаве прішлі. К іхнему міністру. Тут фамілія, імя переспросілі. «Так что ж мы вам доверілі воспітывать наше поколеніе, а как бы вы его воспіталі? […] Почему вы началі бороться с советской властью?» – «А я не боролся, – говорю я. – Я работал. Працавал в школе всегда». – «Не брешите, мы всё о вас знаем». Ну што ж зробіш? Действітельно оні ўжо всё зналі. Я не знал, што ў ніх уже закончено следствіе. Ім надо было тока оформіть нас. І Супрун уже ў Мінске был. […]

«Уведите его». Мяне ўвелі ў Амерыканку, в адзіночку, і вот начало мытарства. Дзень і ночь, дзень... Чем яны давілі? Чем уніжалі? Эта маральна. Папершае, у адзіночку дзержалі. Это раз. Прытом днём нельзя ні легчы, ні сесці, толька трэба было ілі стояць, ілі сідзець. Сідзець можна было, но только не дремать. Краваці железные, ані пры сценках на замке, закрыты днём. Вот вечером іх открывали, только можно было лежать. І днём, калі можна гаварыць, нічего не рабілі. Целый дзень ты болтаешься. Вечэрам 6 часов на всю ночь следства. Велі к следователю, па комнатам. Гдзе, хто, у якім кабінэце быў. […] Давілі эцім морально.

Я спачатку отказываўся, ешчо мог бы отбрехівацца. У гэты час, як мяне задзержалі, пасламі дамой, у Залесье, і там обыск зрабілі. Усе мае падручнікі, матэрыялы, цэлы чэмаданчык... Я, каб ён пад рукой не блытаўся, на гару занёс, штобы не рыўся ніхто. А інструкцыю, каторая ў мяне была нашай арганізацыі, каторую я палучыў, ваткнул в кнігу, в канаўку. Методзіка па матэматыцы.

І нашлі. Яны ўжо зналі. Былі навучаныя. Я ж не знал, што оні всё знают. Нашлі гэту інструкцыю. І бацьке далі распісацца, што знята пры обыске. Ешчё понятые там былі. Ну, і мне под нос… […]

[Яшчэ] пра мяне Супрун сказаў. Эта ўжэ мацерыал па следствію, кагда был. А гэто самое дзействітельно было. І мне ўжо не было куда отпірацца. Што ж ты зробіш? І раз так, я стал тогда на пазіцыю барацьбіта. Дзействітельно, я ненавіджу, не люблю, чаму і всё прочее. І пачаў не апраўдвацца, а, наоборот, у вочы іх калоць. У той час я савсем не думал, што я станусе, што мяне памілуют. Шчасце наша: хто-та мне сказал, што вышэл указ какой-то… […] Гэта спасло. А так бы нас пусцілі, як у Курапатах. Усіх пускалі, і нас бы, нашу групу, негледзячы бы пусцілі [у расход].

Да, дзействіцельна, у нас была эта арганізацыя. Была. Но она ешчо нічего не зрабіла. Только в зачатке была. То, што я ўтаіл, это я знаю, что ўтаіл. Но оні большэ кроме меня і секретаря нікаго не зналі в нашэй организацыі. То, што зналі в центральной организаціі, што я кіраўнік, а другой секратар. Большэ ані нікога не зналі. […] Мы нічого не зрабілі. Вот апраўданіе. Паэтаму нам па 10 год. А кіраўніку – 25 год. Аднака после таго, як мы аттуда вярнуліся, і Супрун пісаў, і я пісаў в отношеніі рэабілітацыі. І одному отказалі, і другому отказалі. […]

Настаўнікі ў нашэм сельсавеце, з каторымі мы былі знакомые, пераведзены былі ў другіе раёны. Штобы рассеіць іх. Но іх не судзілі, не рэпрэсавалі. Это я об этом узнал, калі ўжо вярнуўся дамой. Начал распытываць. Оні под подозреніе попалі, што былі знакомые со мной. Но іх не чапалі і нічего ім не прішілі. […]

Аўгуст месяц – меня ўзялі. В ноябре месяце іли в дзекабре был суд. Трібунал. На трібунале нас было 4 человека: Супрун, я, Косця і Кабак. Нас к Новому году ўжо ў Оршу отправілі. На пересылку. І туда ўжэ прывезлі групу остальных з Баранавіч. Там я сустрэўся са ўсімі, хто быў па групе асуджаны. І нават две жанчыны былі. Две не жанчыны, а две дзевачкі. Вот нашага ўзроста. Лёдзя і Ніна Карач[14]. Мы перад ад’ездам ужо зналі, што нас чакае ўперадзі. Мы сюрпрыз зрабілі этай самай Лёдзі. […] Самадзелку зрабілі такую, навагоднюю паздравіцельную аткрытачку. І ўжо мяне как старэйшага… Супрун з 26-га года, а астальные ешчо маладзей былі. Дагаварылісь с паставым, штобы разрешылі занесці ў жэнскую комнату і паздравіць нашу калежанку. Ахраннікі разрэшылі. Помню, у жэнскую комнату я пашол. Божэ мой, ва-первых, там запах страшный был. Ну, я этага не баялся. Маладой ешчо быў, не такі ўжо смелы. Я ад усіх нашых хлопцаў павіншаваў яе з Новым годам. Пажаданнямі ўсяго. Што ўсё жэ мы пережывём это всё. Гэта быў такі сюпрыз навагодні. Этай Лёдзі. […]

Мы [паводзілі сябе] вельмі горда. Мы шлі на смерць. Адзін аднаму паддавалі бодрасці. [ … ] Касацыю пісалі ці мы не пісалі, я вот ужэ не памятаю. В обшчэм, мы ўжо тут калегіяльна рэшалі вот гэту справу. Там таксама [працэс] прахадзіў? Каждаго вызывалі. Фамілія, імя, гдзе роділся? Потом пытанні, касающчіе дзела. [ … ] Пытанні – адказаў. Усё, садзіся. Так апісалі каждага. І паследнее слова тожэ было дадзена нам. Я ўжо нават і не помню, гэтае паследнее слова гаварылі мы, не гаварылі. Зачыталі прыгавар, і ўсё. Увезлі нас у адну местнасць. [ … ] Ніхто аб этом не знал. Эта ж баяліся аб этам афішыраваць. Ваабшчэ, ні ў газетах, нігдзе не пісалі. Прашол этат працэс. Нігдзе ніхто не упомянул, ніхто нічего не знал. Эта прасачылась потым. Гэта ж была секрэтнае. Как это так в Советском Союзе, да ешчо організацыя анцісоветская? Баяліся этаго.

*[размова з жонкай Марыяй Яноўскай]*

## ***Высылка***

[Супрун] у Інтэ был. [ … ] Косця паехаў у Караганду. А Антон быў гдзета на Урале. Я папаў спачатку на Варкуцінскую дарогу. Давезлі нас да перасылкі – Княжпагост. Ёсць мясціна такая. Там разгрузілі. А аттуда ўжэ вся дарога, тока адныя лагера. Так вот па патрэбнасці, гдзе трэба была рабсіла, давалі туда заяўку і аттуда ўжэ рассылалі. З Княжпагоста, значыць, па заяўке ў Котлас павезлі. Набралі групу человек 100 на лесапавал. А кала Котласа, у глухой тайзе, хтосьці да нас папярэдне ўжэ абнёс зону. Баракі паставіў. І с крышамі. Но ешчо не ўпарадкавана ўсё была. Зіма была, снег якраз. Эта ж после Новага года нас завезлі. Я помню, былі адзетыя спалі. У середзіне былі жэлезные бочкі. Мы ў эціх бочках трубы рабілі і тапілі всю ноч, каб цепло было. Патаму што мароз. Эта ж холад. Так мы зімавалі. Вокны пазабівалі некатарыя.

Нам на самаўпарадкаваніе мала далі часу і на працу пагналі. Там дзесьці кілометра два ад нашаго лагера. Зону абвелі, гдзе мы павінны былі лес рэзаць і працаваць. А працаваць не так, як ты хочаш, а норма. Вот 6 кубоў ты выразаў леса, значыць, палучыш 500 грам хлеба. Не выбрал – 300 грам палучыш. [ … ]

Пака чалавек малады, пака ў него ёсць запас сіл, неяк ешчо працуе. А там месяц-два прашло, і людзі падают. Вязуць іх тагда [у] лечэбны лагер, куда сабіралі всех эціх дахацяг. Там іх немножко падкармлівалі, штобы на ногі паставіць. Паставілі на ногі, апяць в это самое. [ … ] Узвесіў я абстаноўку. Думаю, што ў мяне не хопіць сіл перанесці гэта ўсё. Патаму што зіма была... Людзі,

старыя асобенна, падалі. І іх ужэ не харанілі, а прама за барак лажылі, іх снегам завевала, замерзалі ані да весны. [ … ]




*Партрэт Сяргея Яноўскага. Сольвычагодск. 1950 г.*

А патом, відзіма, так практыкавалась, у наш лагпункт прыезджае вербаўшчык. Прадставіцель Сольвычагодска. Там был ДОК – дерево-отделочный комбінат. І набірает себе спеціалістаў. Нужны былі слесара, станочнікі. Ну, і аб’явілі, хто сталяра, маглі к ему ісці. І ён з каждым сабеседаваніе рабіў. Меня што-то торхонуло – тоже іді. Думаю, надо вырываться. Пашол. Он спрашывает: «Столяр?» Я гавару: «Да, столяр». «А што ж ты рабіў?» – спрашывает. Я гавару: «Я жыл на сельскай гаспадарцы, дома з бацькам. Рабілі самі

себе сані, рабілі сабе калёса, дверы. Што трэба было, тое і рабіў». На самам дзеле я не канкрэтна сам, но з бацькам. Памагаў яму. Я знаў гэтыя работы.

Яму эта падабалася, што я, так сказаць, не кручу… І запісаў мяне. Чэрэз недзелю, чэрэз две прыходзе нарад. Ён адабраў чэлавек 10 ілі большэ 10-ці. Нас пешшу гонят у Котлас, грузят у абыкнавенны вагон, у купэ адно. С ахранай. І праехалі мы ў Сольвычагодск, на этот ДОК. Там станкі, вся столярка. Столярка на всю ветку, на Воркуту. Там адні ўкраінцы почті. У ніх большая солідарность. [ … ]

Я ім так і гавару чыстую праўду, які я столяр. Мяне не адкінулі, не адштурхнулі. Спачатку я учэніком был у ніх. Памагал, а патом асвоіл сталярку. І рабіў і окна, і дзверы… Што хочаш рабіў. І я прыспасобіўся да этай працы, год там пабыў. Фатаграфію адтуль маме прыслаў.

Патом была реорганізацыя ГУЛАГа, і всех такіх, как мы, арганізавалі ў спецканцінгент лагеря. Это тіпа тех самых ізолірованных, с жосткім режімом. Еслі в обшчіх лагерах працуют свабодна і спят дома тожэ свабодна, дак нас пад замком всё время держалі. Спецконтінгент. На плечах і на лбу мы носілі номера. Каждому был номер. І зварачываліс до каждого не по імені-фаміліі, а па номеру. І вот в 50-м годзе нас перевозят на Брацкую ГЭС в Азёрлаг. Там до нас былі японцы. Іх інтерніровалі, вывезлі, і эці самые лагера после японцев занялі мы. Па всей этой ветке сабралі ўсіх, такую «контру», как я. Нас завезлі на Брацкую ГЭС. [ … ] У лагпункце только лесапавал был таксама.

Праходзіт час, і тожэ вербаўшчыкі прыехалі с самого Тайшэта. У Тайшэце былі ЦАРМЗ – Цэнтральныя аўтарэмонтные масцерскіе. І пріехал вербаўшчык – набірает слесарэй, механікаў для рэмонта машын в ЦАРМЗ. Тут тожэ мяне пацягнула. Не аставацца, таму што ілі на Брацкую ГЭС у катлаван пайдзёш, ілі ў лес. Я іду к этаму вербаўшчыку. Гавару: «Я столяр». Ужэ ў мяне есць папера, где работал, што рабіў. Я гавару, што работал на ДОКе, мы дзелалі окна, двері. Пры ЦАРМЗе тожэ былі деревомастерскіе. Ім тожэ надо былі сталяра. Запісывают мяне, і праз некатары час прыходзіт нарад. Нас грузят. І мы едзем в ЦАРМЗ. Пріезжаем, там камісія сразу. На камісію каждого: хто какой спецыяльнасці, штобы апрэдзіліць па брыгадам, па ўчасткам, гдзе хто будзе працаваць. Мяне спрашываюць, гавару, што я – столяр.

Там заведуюшчый сталярнымі масцерскімі был вольнанаёмны Ясінскі, мінчанін, беларус. Ён зацікавіўся, што я таксама земляк. Мы перагаварылі, я яму падабался. І меня запісвают у масцерскую. Там заключонный якраз кончыў срок, его асвабаждают. Было пустое места. Тут я работал недолго. Потым мяне ў другіе, страіцельные... В обшчэм, строіл і Тайшэт. Працаваць не баяўся. Любіў, знаў, як працаваць.

## *Вызваленне*

Калі Сталін памёр, нас жэ дамой сразу не пусцілі. Мне только дазволілі жыць у раёне Тайшэта. [У] мяне і ўдостовереніе ёсць [на] врэменнае пражываніе. Строілі мы горад Тайшэт. Там многа чего пастроіл. Пазнакомілся з [жонкай]. Аттуда с ей вместе і домой ехалі.


СССР
МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ
Управление
«19» IX 1955 г.

Форма «А»
ВИДОМ НА ЖИТЕЛЬСТВО НЕ СЛУЖИТ.
ПРИ УТЕРЕ НЕ ВОЗОБНОВЛЯЕТСЯ

5 I-АА
СПРАВКА №0045564

Выдана гражданину Яновскому Сергею Петровичу
1925 года рождения, уроженцу д. Занесье, Ильянский р-н, Молодечненской обл.
гражданство СССР национальность Белорус
осужденному Военным Трибуналом
«21» XII 1947 г. по ст.ст. 63-1, 76 УК БССР
к лишению свободы на 10 лет, с поражением в правах на 3 года,
имеющего в прошлом судимость Нет
в том, что он отбывал наказание в местах заключения по «19» IX 1955 г. и по Указу от 14.VII.54 г. «об условно-досрочном освобождении»
С применением —
Освобожден «19» Сентября 1955 г. и следует к избранному месту жительства Ильянский р-н, Молодечненской обл.
(город, село, деревня, район, область)
до ст. Уша жел. дор.
Начальник лагеря (ИТК) (Евстигнеев)
Начальник отдела (части) (Пивоваров)

*Даведка аб вызваленні. 1955 г.*

Нас выпусцілі, кагда Сталін памёр. Далі нам удостоверенія. Я ўжо мог выхадзіць за зону. [ … ] Был такі выпадак. Вольнанаёмны ўкраінец, тожэ ўчыцель, Грыгарэўскі па фаміліі, гатоў [быў ехаць] дамой у вотпуск на Украіну, і па дароге суправаджаў аднаго эстонца. Эстонец – інвалід. Ён не мог сам да-

мой даехаць, его трэба было суправаждаць. За гэта, што ён саправаждаў, меў льготы па білету. Яму дзешавей каштавала паехаць. Паехал ён у Эстонію, і там эстонцы... Яны злопамятные. В обшчэм, ён адтуль не вярнуўся. А гэты Грыгарэўскі быў прарабам па Тайшэту. І патом некому было замяніць. Падсунулі эту работу мне. І я стал прарабам. Хоць не знал, но практыка ў мяне была і смекалка, і азарт был.



*Пасля вызвалення. 1957 г.*

Потым нам далі паспарта настаяшчые. [ ... ] В 56-м. Сын радзіўся. І мы прыехалі дамой. Прыехалі ў Мінск. У школе працаваць – і думаць нечего. Я прыпісацца хацеў у Мінске. І думаць нечего. Только прапісалі ў Заслаўі. А працаваць я ўжо пайшоў па эціх страіцельных трэстах. Мяне ў трэцім трэсце ўзялі. Хоць я не цеарэцік, а пракцік, но взялі дзесятнікам. Я спачатку на страіцельстве быў, а патом кінуў стройку. Патаму што знаў, што ў мяне падгатоўкі той няма, якая трэба. І перайшоў на гаспадарчую работу…

## Пра сям'ю

І трэба сказаць, сям'я павінна ў жыцці ўступаць. Чалавек не можа быць абсалютна ва ўсім пэўным быць. Ён можа што-небудзь не дапанімаць. Нада заўсёды мець розум, мець смеласць уступіць, калі ты не праў. У гэтым і сам сэнс жыцця сямейнага заключаецца. [...] Мы на чэсным слове сашліся с [жонкай]. Пражылі 50 лет. І кагда 50 лет свадьбы была, павенчаліся. Не знаю, ана, наверна, захацела, а можа, і я. Решілі, так сказаць, і для дзяцей.

## Заўвагі

1 Беларускі архіў вуснай гісторыі. Калецыя Ірыны Кашталян. Яноўскі Сяргей Пятровіч. Аўдыёінтэрв'ю 1 і 2. (http://nashapamiac.org/archive/watchcontent.html?id=678&parentId=69)

2 Аляксандр Уласаў (1874–1941) – вядомы беларускі грамадска-палітычны дзеяч. У 1920-я гг. апекаваўся беларускай гімназіяй у Радашковічах (Маладзечанскі раён Менскай вобл.), якая была адкрытая дзякуючы ягоным намаганням.

3 Падобна, што маецца на ўвазе вёска Канатопы Капыльскага раёна Менскай вобл.

4 Вёска Малявічы Вілейскага раёна Менскай вобл.

5 "Чайка" – гэта падпольная антысавецкая моладзевая арганізацыя, якая дзейнічала на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў пасляваенны час (1946–1947).

6 Кастанцін Альшэўскі – сябра "Чайкі".

7 Антон Кабак – студэнт Ганцавіцкага педвучылішча, сябра "Чайкі".

8 Вёска Лугавыя Вілейскага раёна.

9 Падрабязней пра мабілізацыю ў партызаны ў інтэрв'ю ад 31 кастрычніка 2007 г. // Беларускі архіў вуснай гісторыі. Грамадскія дзеячы. Яноўскі Сяргей Пятровіч. Аўдыёінтэрв'ю 1. 01:30:07 – 01:42:00 (http://nashapamiac.org/archive/watchcontent.html?id=1408&parentId=551)

10 Дзяга – гэта рамень, рамянны пояс.

11 Вёска Забрэжжа Валожынскага раёна Менскай вобл.

12 Васіль Рыгоравіч Супрун (1926–2007) – кіраўнік «Чайкі».

13 Больш падрабязна пра дзейнасць рэспандэнта ў складзе "Чайкі" гл. інтэрв'ю ад 23 лютага 2008 г. // Беларускі архіў вуснай гісторыі. Грамадскія дзеячы. Яноўскі Сяргей Пятровіч. Аўдыёінтэрв'ю 3. 00:22:03–00:34:00 (http://nashapamiac.org/archive/watchcontent.html?id=1408&parentId=551)

14 Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач – сябры «Чайкі».